**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№45(709) 7 лістапада 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by


# Вольнае Глыбокае





**У Германавічы завітаў бард Зміцер Вайцюшкевіч.**
*Працяг тэмы на стар. 4.*





Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на ________ **№166**

## Пастаўскі раён

# Пайшлі затрымкі зарплат

■ Кастусь Александровіч

**Найбольшую трывогу зараз выклікае стан спраў у айчыннай гаспадарцы, куды ўклалі велізарныя сродкі, далі шмат новай тэхнікі, абнавілі фермы.**

Аднак ніякай аддачы АПК не дае, а на Віцебшчыне большасць гаспадарак ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі. Вось і ў буйным Пастаўскім раёне ў пачатку кастрычніка 12 з 14 мясцовых гаспадарак не разлічыліся своечасова са сваімі работнікамі за працу ў жніўні ў памеры 4,2 млрд. рублёў. У гэты час года бывае найбольшы аб'ём выручкі, аднак у раёне, як і ў астатніх у Прыдзвінні, не быў выплачаны і яшчэ 1 млрд. рублёў ліпеньскіх заробкаў. Праўда, былі прыняты ўладай розныя адміністрацыйныя меры і большую частку запазычанасці на Пастаўшчыне ліквідавалі, грошы людзям неяк адшукалі выплаціць, але праблема засталася. Справа ў тым, што на вёсцы малыя аб'ёмы прадукцыі, квітнее безгаспадарчасць, а калгаснікі ўжо прывучаны жыць у доўг і не збіраюцца мяняць адносіны да працы на зямлі. Як паказалі праверкі, на многіх фермах жывёла стаіць цяпер недакормленай, у памяшканнях антысанітарыя, не арганізуюцца прагулкі кароў на свежым паветры. У выніку па раёне недабор малочнай прадукцыі да ўзроўню мінулага складае пад 30 тон кожныя суткі. Акрамя гэтага гаспадаркі краю перасталі плаціць за спажытую электраэнергію і завінавацілі больш 713 млн. рублёў. Узнікла складаная сітуацыя з плацяжамі ў Фонд сацыяльнай абароны, а даўгі па падаходным падатку перавысілі 3 млрд. рублёў. Дарэчы, падобны малюнак ужо у 19 з 22 рэгіёнаў вобласці.

## Гарадоцкі раён

# Быццам джунглі за вёскай

■ Станіслаў Раманчук

**Некалькі гадоў назад пасля змены кіраўніцтва на Віцебшчыне пачалі ажыццяўляць амбіцыйную праграму інавацыйнага і інвестыцыйнага развіцця.**

У ёй распрацавалі амаль два дзясяткі розных падпраграм, сярод якіх выдзяляецца і набыла дурную славу адна – “Чыстае поле”. Шмат сіл, сродкаў і яшчэ больш ручной працы пайшло на тое, каб ачысціць прыдарожныя палосы ад хмызняку і прымусіць потым няўдобіцы даваць вялікі ўраджай. Аб тым, што ніхто не лічыўся з эканомікай, цяпер гавораць ужо на рэспубліканскім узроўні, а аб уменні гаспадарыць на зямлі яскрава сведчаць сапраўдныя плантацыі паразіта–баршчавіка Сасноўскага. Гэта шкодная расліна-паразіт, як ведаюць спецыялісты, расце і бурна пладаносіць толькі там, дзе землі закінутыя і дрэнна апрацоўваюцца. Такіх, як аказалася, шмат нават у Гарадоцкім раёне, які выбралі месцам правядзення чарговых маштабных “Дажынак-2014”. Асабліва шмат такой дзікай расліннасці, вышынёй месцамі ўжо пад 3 метры, на тэрыторыі Віраўлянскага сельсавета.

Адсюль, дарэчы, не так і далёка да расійскай граніцы, дзе яшчэ большае запусценне на зямлі паўсюдна ўбачыш. У нас крыху лепей становішча, але многія апусцеўшыя вёскі нагадваюць гаротныя паселішчы канца 19-га стагоддзя, бо тут абанкруціўся саўгас “Обальскі”, а ўслед за ім і калгас “Маяк”. На зямлі не стала каму працаваць, і толькі баршчавік квітнее кожную вясну, пашырае свае плантацыі. Яго асобныя вяскоўцы позняй восенню пачалі секчы тапаром і выкарыстоўваць потым як распалку для дроў у печках, бо ён добра гарыць. У суседнім Ушацкім раёне з баршчавіком проста бяда, настолькі яго стала многа.

## Полацкі раён

# А жыццё толькі пачыналася

■ Чэслаў Якубовіч

**З надыходам позняй восені, па дрэннай завядзёнцы, рэзка прыбавілася дарожных здарэнняў з цяжкімі наступствамі.**

Па горадзе Наваполацку гараджане шмат абмяркоўвалі трагічную гісторыю з 23-гадовым хопцам, якога збіў на адной з цэнтральных вуліц яшчэ маладзейшы матацыкліст на спортбайку. На другі дзень пасля інцыдэнту пацярпеламу стала вельмі дрэнна і ён памёр у рэанімацыйным аддзяленні. Гэтым ДТЗ з гібеллю чалавека заняўся і Следчы камітэт, распачаў крымінальную справу. Маці загінулага сына таксама напісала заяву з патрабаваннем правесці шэраг дадатковых праверак, у тым ліку і дзенняў урачоў гарбальніцы. Справа ў тым, што пасля сутыкнення яму зрабілі спачатку толькі здымак груднoй клеткі, не выявілі ніякіх пераломаў і пашкоджанняў унутраных органаў і адправілі дамоў, хоць моцна балела ў грудзях. Але той жа ноччу хопцу стала яшчэ горш, у яго моцна паднялася тэмпература, раніцай сябар зноў адвёз яго ў бальніцу. Аднак толькі значна пазней пацярпелага шпіталізавалі і змясцілі нарэшце навапалачаніна ў рэанімацыйнае аддзяленне. На жаль, урачы не змаглі выратаваць Арцёма Н. з кіпцюроў смерці і ён памер раніцай наступнага дня ад атрыманых сур'ёзных траўм. Але ж гэта гісторыя трывожная, бо не заўсёды наша медыцына, як бачна, адэкватна рэагуе на здарэнні, якія могуць напаткаць кожнага з нас…

# Аб самым надзённым

## Узровень ведаў беларускай моладзі сведчыць аб няпростым становішчы айчыннай сістэмы адукацыі



■ Аляксандр Цішкевіч

**З новага навучальнага года па выніках прыёмнай кампаніі-2013 па большасці спецыяльнасцей у ВНУ Беларусі быў недабор студэнтаў нават на бюджэтныя, не кажучы ўжо на платныя месцы. Дарэчы, за немалыя грошы ў нашай краіне з яе сацыяльнай палітыкай зараз вучацца ўжо 65 з кожных 100 студэнтаў.**

Ужо відавочна, што ў Беларусі разам з сур'ёзнымі эканамічнымі цяжкасцямі падае якасць навучання падрастаючага пакалення на фоне вострых дэмаграфічных праблем. І справа не толькі ў тым, што ў глыбінцы імкліва скарачаецца колькасць насельніцтва, штогод па краіне ліквідуюцца ўжо сотні малакамплектных школ, а новых будуюцца адзінкі. Асабліва красамоўнай у гэтым плане стала апошняя ўступная кампанія па паступленні ў ВНУ, сярэднеспецыяльныя і прафесійна-тэхнічныя ўстановы. Усім бы хацелася, каб з іх сцен выходзілі маладыя кваліфікаваныя спецыялісты, гатовыя авалодваць сучаснымі інавацыйнымі тэхналогіямі XXI стагоддзя.

А што мы маем цяпер рэальна? У гэтым годзе прыйшлося панервавацца большасці прыёмных камісій як дзяржаўных, так і 7 прыватных ВНУ Беларусі. Апошнія, дарэчы, размешчаны і дзейнічаюць толькі ў Мінску. Паўсюдна сутыкнуліся з недахопам абітурыентаў, было і скарачэнне планаў набору на бюджэтныя месцы ў многіх ВНУ. Выпускнікоў школ сёлета стала амаль на 30 % меней, чым за апошнія 10 гадоў. У наступныя гады іх, на жаль, не прыбавіцца, бо ў 90-х гадах мінулага стагоддзя была вельмі нізкая нараджальнасць і жылося цяжка людзям пасля развалу СССР.

Аднак галоўнае – не гэта. Проста жахліва, што сёлета ўжо 36 % юнакоў і дзяўчат, якія здавалі цэнтралізаванае тэсціраванне, яго правалілі, паказалі нізкія веды матэматыкі, фізікі і нават моў. Такія абітурыенты не змаглі пераадолець нават сціплы парог (10-20 балаў) у залежнасці ад прадмета і прадэманстравалі, што ў іх галовах пуста, гуляе вецер і з такімі ведамі нельга садзіцца ў студэнцкае крэсла. Пры гэтым самы вялікі дэфіцыт паступаючых мелі ВНУ педагагічнага і сельскагаспадарчага профіляў. У навучальных установах АПК нават прадоўжылі сёлета тэрміны падачы заяў, але так і не вырашылі праблему.

З новага навучальнага года па выніках прыёмнай кампаніі-2013 па большасці спецыяльнасцей у ВНУ Беларусі быў недабор студэнтаў нават на бюджэтныя, не кажучы ўжо на платныя месцы. Дарэчы, за немалыя грошы ў нашай краіне з яе сацыяльнай палітыкай зараз вучацца ўжо 65 з кожных 100 студэнтаў. Як адзначаюць спецыялісты ў сферы адукацыі, у большасці дзяржаўных ВНУ матэрыяльна-тэхнічная база навучання таксама ўжо зношана і састарэла, як і на беларускіх заводах і фабрыках. На яе папаўненне і абнаўленне, будаўніцтва студэнцкіх інтэрнатаў выдзяляецца недастаткова грошай з дзяржбюджэту.

А ў 7 айчынных прыватных ВНУ сёлета проста бяда. Там план прыёму выканалі толькі на 40-45 % ды і толькі за кошт завочнага навучання. На шэраг спецыяльнасцей эканамічнага, юрыдычнага, упраўленчага профілю не набралася ўвогуле студэнтаў-першакурснікаў дзённай формы навучання. Пры гэтым наша краіна застаецца па-за Балонскай платформай, на якой вядзецца падрыхтоўка спецыялістаў у 45 вядучых дзяржавах Еўропы. Кошт навучання беларускага студэнта ў 7 разоў меншы, чым у сярэднім у ЕС. Нават у суседняй Расіі нас абышлі і стварылі 20 буйных навуковых цэнтраў далейшага павышэння і перападрыхтоўкі спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй для вядучых галіновых холдынгаў і карпарацый.

Ва ўсім свеце больш вольны і сам настаўнік школьны, і малады спецыяліст ацэньваецца на працы лепш, там ВНУ бліжэй да вытворчасці, лепш развіты вучэбныя, вытворчыя і пераддыпломныя практыкі. Самі ж уладальнікі дыпломаў за мяжой пастаянна вучацца і далей, а ў нас толькі робіцца першыя крокі па пераходзе да двухступенчатай структуры вышэйшай адукацыі (бакалаўрыят і магістратура). І яшчэ адзін перакос. Найбольш моцныя і адораныя абітурыенты ідуць і паступаюць у асноўным у самыя прэстыжныя ВНУ Мінска. У навучальных установах у рэгіёнах іншы малюнак, тут бы рады бачыць такую моладзь, а яе небагата.

І ўжо зусім засмучае, што з новага навучальнага года кошт навучання для студэнтаў-платнікаў павялічыўся ў сярэднім на чвэрць. За жаданы дыплом патрабуецца выкласці ўжо мінімум за навучанне ў ВНУ ад 50 млн. рублёў, завочнікy ў 2 разы меней, але – гэта таксама вялікія грошы, не кажучы ўжо пра іншыя многія дадатковыя расходы. У той самы час сусветная навука пастаянна дэманструе свету ўсё новыя і самыя дасканалыя тэхналогіі і распрацоўкі. А чым мы можам пахваліцца? Як крымінальных злачынцаў сабраліся судзіць трох пажылых прафесараў БНТУ, аднаму з якіх споўнілася 72 гады, а кіраваў навуковай групай 67-гадовы загадчык кафедры. З такімі падыходамі нас чакае поўны тупік і не толькі ў сферы адукацыі.

### Надвор'е ў Глыбокім — www. rp5ru

| | Чацвер 7.11.13 | | | | Пятніца 08.11.13 | | | | Субота 09.11.13 | | | | Нядзеля 10.11.13 | | | | Пнд.11.11.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +5 | +5 | +8 | +6 | +3 | +6 | +9 | +3 | +2 | +6 | +11 | +10 | +8 | +7 | +9 | +5 | +5 | +5 | +7 |
| Ціск | 735 | 736 | 738 | 741 | 741 | 741 | 745 | 748 | 747 | 744 | 743 | 743 | 742 | 744 | 746 | 747 | 746 | 745 | 746 |
| Вільготнасць | 95 | 97 | 80 | 93 | 92 | 95 | 77 | 94 | 97 | 96 | 87 | 95 | 96 | 95 | 84 | 95 | 95 | 96 | 86 |
| Вецер м/сек | 1 Пн-З | 1 Пд-У | 4 Пд | 4 Пд-З | 3 Пд-З | 2 Пд-З | 3 З | 2 Пд | 3 У | 8 Пд-У | 6 Пд-З | 3 Пд | 4 Пн-З | 1 Пд-З | 1 Пд-З | 3 У | 3 Пн-У | 4 Пн-У | 4 Пн-У |

## Дзень за днём

**Эксперты Сусветнага банку спрагназавалі стагнацыю беларускай эканомікі на працягу яшчэ двух гадоў. Дзяржорганы пры выпрацоўцы праекту параметраў развіцця ў 2014 годзе заклалі сярэдні курс долара ўжо 9800 рублёў. З 1 лістапада зноў падаражэлі цыгарэты, амаль на 12 % скароціўся сёлета продаж гарэлкі. Многія беларускія настаўнікі не атрымалі абяцаных павышэння на 25 % заробкі, даходы педагогаў невялікія. У злосных нецвярозых вадзіцеляў у Беларусі пачалі канфіскоўваць аўтамабілі, а пераход на зімовыя шыны стане неўзабаве абавязковым.**

# Важнейшыя навіны свету

**Румынія.** На ваеннай базе Дэвеселу на поўдні краіны пачаліся работы па размяшчэнні навейшага супрацьракетнага комплексу ЗША і НАТА, што вельмі непакоіць Расію.

**Расія.** На граніцы з Украінай расійскія пагранічнікі пачалі выстаўляць загароды з калючага дроту з-за намераў Кіева падпісаць дагавор аб асацыяцыі з Еўрасаюзам.

**Грузія.** Як і чакалася, новым прэзідэнтам стаў у І-м туры выбараў старшыня правячай кааліцыі "Грузінская мара" Г. Маргвелашвілі, але краіна цяпер парламенцкая рэспубліка.

**Бельгія.** У дзяржавах Еўрасаюза, як паведаміла прэс-служба ЕС, цяпер 26 мільёнаў чалавек не маюць працы, працэс выхаду з эканамічнага крызісу расцягнецца на бліжэйшыя 10 год.

**Чэхія.** Пасля самароспуску парламента на датэрміновых выбарах перамаглі сацыял-дэмакраты (20,45 %), але чэхаў чакаюць няпростыя перамовы аб правячай кааліцыі.

**Лівія.** Суд у Трыпалі абвінавціў больш 30 паплечнікаў экс-дыктатара М. Каддафі і яго сына Сейфа аль-Іслама ў забойствах людзей і іншых злачынствах падчас рэвалюцыі.

**Расія.** У кампаніі "Уралкалій" не пагадзіліся з умовамі экстрадыцыі яе гендырэктара У. Баўмгартнера, прапанаваных кіраўніцтвам Беларусі ў абмен на выплату 100 мільёнаў долараў.

**Малдова.** У сувязі з празмерна высокай цаной расійскага газу краіна скараціла яго імпарт на 30 % і праз Румынію збіраецца часткова закупляць блакітнае паліва на Захадзе.

**Украіна.** Лідар парламенцкай партыі УДАР, чэмпіён свету па боксе Віталь Клічко аб'явіў у Радзе, што будзе ўдзельнічаць у наступных выбарах прэзідэнта, якія пройдуць ў сакавіку 2015 года.

**Англія.** Уплывовая газета The Guardian надрукавала дакументы экс-супрацоўніка ЦРУ Э. Сноўдэна аб праслухованні разведкай ЗША тэлефонных перамоў 35 сусветных лідараў.

**Германія.** Улады паведамілі аб 6 ахвярах магутнага ўрагана Іуда толькі сярод немцаў, ад стыхіі гіблі людзі шмат дзе ў ЕС, шторм быў самым разбуральным за апошнія 20 гадоў.

**Італія.** Ля берагоў Сіцыліі ўдалося выратаваць некалькі малых суднаў з 800 нелегальнымі мігрантамі, спецыяльны цэнтр для іх, на востраве Лампедуза ўжо моцна перапоўнены.

**Польшча.** Ва ўзросце 86 гадоў памёр першы прэм'ер посткамуністычнай Польшчы Тадэвуш Мазавецкі, які назаўжды ўвайшоў у гісторыю краіны і змяніў гісторыю Еўропы.

**Тайвань.** Кампанію Samsung аштрафавалі тут на больш чым 300 тысяч долараў за наём спецыяльных людзей, каб яны за грошы крытыкавалі мабільныя тэлефоны місцовай кампаніі НТС.

**ЗША.** Услед за расстрэлам школьнікам у Нявадзе настаўніка ў класе паліцэйскія ў штаце Каліфорнія застрэлілі 13-гадовага падлетка з цацачным аўтаматам, калі ён не кінуў зброю.

**Аўстралія.** На паўднёвым усходзе штата Новы Уэльс паблізу Сіднея моцныя лясныя пажары знішчылі больш 200 жылых дамоў, едкі дым адчулі ўсе жыхары гэтага мегаполіса.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Міністр эканомікі Беларусі Мікалай Снапкоў не пагадзіўся з прагнозамі замежных экспертаў, аб тым, што ў нас можа паўтарыцца эканамічны крызіс, як у 2011 годзе.

**Салігорск.** Беларуская калійная кампанія падпісала 3-гадовы мемарандум з кампаніяй Sinofert на пастаўкі калійных угнаенняў у Кітай на істотныя аб'ёмы адгрузкі калію штогод

**Заслаўль.** Праз горад пройдзе 2-я акруговая дарога вакол Мінска працягласцю 157 км, але на І-м этапе будаўніцтва ўзніклі складанасці з фінансаваннем дарожных работ.

**Баранавічы.** Падчас наведвання прадстаўлення цырка-шапіто дзяцей у антракце каталі на арэлях, аднак падчас катання парваўся трос і 12-гадовая дзяўчынка ўпала з вышыні, зламала хрыбет.

**Мінск.** Адразу 3 пажылыя прафесары БНТУ, адзін ва ўзросце 72 гады, сталі фігурантамі крымінальнай справы за нібыта прысваенне бюджэтных сродкаў за свае навуковыя працы.

**Бяроза.** Улады прымусілі жыхароў яшчэ 17 вёсак раёна, размешчаных паблізе калгасных свінаферм, поўнасцю выразаць пагалоўе дамашніх свіней на сваіх панадворках.

**Мінск.** Былога дырэктара Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра гігіены абвінавацілі ў прычыненні ўрону дзяржаўнаму бюджэту ў суме больш 1 мільярд рублёў.

**Валожын.** Вечарам у вёсцы Вайчаны 53-гадовы муж-паляўнічы застрэліў са сваёй стрэльбы жонку, а потым застрэліўся сам, у іх засталася дарослая дачка з сям'ёй, якая пражывае ў Мінску

**Скідаль.** Вечарам з другараднай дарогі на трасу на Гродна вылецеў грузавы аўтамабіль МАЗ і ўрэзаўся ў рэйсавы аўтобус, адна з пасажырак атрымала цяжкую траўму галавы.

**Мінск.** Першы віцэ-прэм'ер урада Расіі Ігар Шувалаў пацвердзіў, што для Беларусі з 1 студзеня 2015 года экспартныя пошліны на пастаўкі нафты прымяняцца не будуць.

**Жлобін.** Да 7 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці пагражае мясцоваму падатковаму інспектару, які неадназова браў хабар у прадпрымальнікаў пасля праверак іх крамаў.

**Рудзенск.** Жыхары гарадскога пасёлка атрымалі магчымасць за 50 хвілін даязджаць у Мінск на хуткасных цягніках гарадскіх ліній швейцарскай фірмы Штадлер, якія ходзяць тут 9 разоў на дзень.

**Быхаў.** Тут арыштавалі першага намесніка старшыні райвыканкама, які разбіў службовае аўто падчас язды па асабістых справах, а рамонт зрабіў за кошт бюджэтных сродкаў.

**Ветка.** У забруджанай радыяцыяй зоне адсялення на беразе ракі Бесядзь міліцыя выявіла лагер браканьераў з Гомеля, якія электрычнымі вудамі шмат налавілі рыбы забруджанай радыёнуклідамі.

## 1 лістапада павышаюцца тарыфы на электраэнергію, цяпло і газ для насельніцтва



■ naviny.by

**Адпаведнае рашэнне зацверджана пастановай Савета міністраў ад 30 кастрычніка 2013 года № 941, апублікаванай на Нацыянальным прававым інтэрнэт–партале, паведамляюць naviny.by.**

Так, тарыфы на электрычнуюэнергіюдлянасельніцтва будуць павялічаны на 8,3 %.

Аднаставачны тарыф на электраэнергію ў жылых дамах (кватэрах), абсталяваных ва ўстаноўленым парадку электрычнымі плітамі, складзе 518,9 рубля за 1 кВт•гадз, дыферэнцыраваны тарыф у такіх жылых памяшканнях у перыяд мінімальных нагрузак (з 22.00 да 17.00) — 363,2 рубля за 1 кВт•гадз, а ў перыяд максімальных нагрузак (з 17.00 да 22.00) — 610,6 рубля за 1 кВт•гадз.

Электрычная энергія для патрэбаў ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за 5 кВт у перыяд мінімальных нагрузак (з 23.00 да 6.00) падаражэе да 610,6 рубля за 1 кВт•гадз, у астатні час сутак — да 1831,8 рубля за кВт•гадз.

У астатніх выпадках аднаставачны тарыф складзе 610,6 рубля за 1 кВт•гадз, дыферэнцыраваны тарыф у перыяд мінімальных нагрузак — 427,4 рубля за 1 кВт•гадз, у перыяд максімальных нагрузак — 1221,2 рубля за 1 кВт•гадз.

Апошняе падвышэнне тарыфаў на электраэнергію было 1 верасня — на 11,8 %.

Дакументам таксама павышана цана на прыродны і звадкаваны газ і тарыфы на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння.

Тарыф на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння павялічаны на 6,8 % да 75 719,6 рубля за 1 Гкал.

Кошт 1 кубаметру газу, што выкарыстоўваецца ў жылых дамах і кватэрах з устаноўленымі прыборамі індывідуальнага ўліку расходу, а таксама ў садовых доміках (дачах) пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў і (або) газавых воданагравальнікаў ў ацяпляльны перыяд вырасла на 8,8 % да 440 рублёў, у летні перыяд — на 19 % да 1466,6 рубля, пры адсутнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў таксама на 19% да 1466,6 рубля.

Аплата за газ, які выкарыстоўваецца ў жылых дамах і кватэрах без прыбораў індывідуальнага ўліку расходу газу пры наяўнасці газавай пліты і цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння з аднаго жыхара ў месяц вырасла на 19,3 % да 11 750 рублёў, пры наяўнасці газавай пліты і газавага воданагравальніка (пры адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння) на 19 % да 33 750 рублёў, пры наяўнасці газавай пліты і адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і газавага воданагравальніка на 19,1 % да 19050 рублёў.

Дакументам таксама на 19 % павышаны цэны на звадкаваны газ, які выкарыстоўваецца ў жылых дамах і кватэрах, — за балон ў 21 кг да 3019 рублёў за кг, для індывідуальных рэзервуарных установак (вадкая фаза) — да 7217,1 рубля за кг.

Апошняе падвышэнне дадзеных тарыфаў было 1 кастрычніка — на 12,7-32 %.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З-за недахопу сродкаў, як выявіў Камітэт дзяржкантролю, вобласць не выканала даручэнне прэзідэнта аб рэканструкцыі 228 ферм, з іх толькі 35 былі гатовы поўнасцю.

**Талачын.** У вёсцы Камаровічы 22-гадовы хлопец, які сёлета вярнуўся з турмы, ледзь не забіў жанчыну, скраў яе іншамарку, але потым быў затрыманы па плане "Перахоп".

**Віцебск.** Новы абутковы холдынг "Кампанія Марко" прайшоў працэдуру рэгістрацыі, рыхтуецца да экспансіі на рынак Казахстана, да 2019 года будзе выпускаць да 5 млн. пар.

**Мёры.** Толькі ў 2014 годзе рэальна будзе здаць у эксплуатацыю новую райбальніцу, яна будуецца з 1992 года, стары корпус перапоўнены, не адпавядае санітарным нормам.

**Глыбокае.** Вопыт працы ў раёне з праблемнымі дзецьмі з нядобранадзейных сем'яў быў рэкамендаваны для пераймання на Віцебшчыне падчас адпаведнага абласнога семінара.

**Пастаны.** Суд раёна задаволіў 2 з трох паступіўшых першых іскаў аб адчужэнні кватэр у спіўшыхся жыхароў райцэнтра, яны ўхіляліся доўга ад аплаты камунальных паслуг.

**Сураж.** Касцюміраванае ваеннае прадстаўленне і салют упрыгожылі ўрачыстасці 70-годдзя вызвалення гарпасёлка ад гітлераўскіх захопнікаў, у вайну тут забілі 8 тыс. людзей.

**Ушачы.** Ва ўрачыстажалобнай абстаноўцы на могілках вёскі Павулле перазахавалі астанкі 9 мясцовых жыхароў, расстраляных карнікамі ў лесе ў блакаду 1 мая 1994 года.

**Браслаў.** На тэрыторыі раёна браканьер з Докшыц з незарэгістраванай паляўнічай стрэльбы забіў лася, але быў затрыманы ноччу з 5 мяхамі мяса, яму пагражае турма.

**Віцебск.** Пад мастом імя Баўмана знайшлі труп 22-гадовага туркменскага студэнта, у дзень смерці ён пасварыўся з дзяўчынай і скончыў жыццё самагубствам.

**Шуміліна.** Цэнтр адпачынку "Дружба" ў агарадку Амбросімавічы прызналі лепшым аздараўленчым лагерам у Беларусі сярод прадпрыемстваў газавай прамысловасці.

**Докшыцы.** Вечарам ля вёскі Свіркі 75-гадовы пенсіянер на "Фордзе" збіў насмерць маладога 25-гадовага веласіпедыста, які раптам выехаў перад аўто на ягонай паласе руху.

**Лепель.** Да 6 гадоў за кратамі могуць правесці двое браканьераў з Віцебска, якіх затрымалі на возеры Какісіна з 350 незаконна вылаўленымі ракамі. У іх таксама канфіскавалі аквалангі.

**Касцяні.** У абласным аздараўленчым дзіцячым цэнтры "Ветразь" паблізе Паставаў упершыню прайшлі курс рэабілітацыі 100 дзяцей з Масквы і Падмаскоўя за 40 тысяч $.

**Глыбокае.** У бронзавага прызёра Алімпіяды ў Лондане 23-гадовай М. Шкерманковай не атрымалася ўдала выступіць на чэмпіянаце свету, у яе "нулявы" вынік у штуршку штангі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Яны марылі пра незалежную Беларусь...

**У Германавічах 2 лістапада ўшанавалі памяць удзельнікаў Саюза беларускіх патрыётаў. Адбылася прэзентацыя фільма Валерыя Мазынскага «Глыбоцкая змова».**

■ **Зміцер Лупач,**
*тэкст і фота.*

Арганізавала мерапрыемства кіраўнік культурна-асветніцкага Цэнтра імя Язэпа Драздовіча Ада Райчонак. На імпрэзу, якая адбылася ў будынку Цэнтра, сабралася каля трох дзясяткаў чалавек.

Мерапрыемства пачалося з прэзентацыі фільма рэжысёра Валерыя Мазынскага "Глыбоцкая змова". Фільм распавядае пра дзейнасць Саюза беларускіх патрыётаў у Глыбокім і Паставах.

Фільм нікога не пакінуў раўнадушнымі, у некаторых гледачоў на вачах былі слёзы. Пасля прагляду фільма адбылося кароткае абмеркаванне фільму. Перад удзельнікамі выступілі Кліменцій Кожан, Ада Райчонак, Аляксандр Асіпенка і, вядома ж, сам рэжысёр фільму Валер Мазынскі.

Жыхар Шаркоўшчыны Аляксандр Асіпенка ў прыватнасці сказаў: "**Тады былі свае героі, зараз мы бачым свайго героя, які зрабіў гэты фільм. Пры сённяшнім часе зрабіць гэта, падняць гэту тэму і пакавзаць яе сэрцам, душой - гэта вельмі цяжка, гэта не кожнаму дадзена. А перадаць гэта маладым, расказаць, як гэта было, - гэта вялікі подзвіг.**

**І другое яшчэ хочацца сказаць. На замежнай мове размаўляюць толькі драпежнікі, на сваёй мове могуць размаўляць толькі героі. Героі гэтага фільма хацелі размаўляць на гэтай мове, вучыць на ёй сваіх дзяцей, унукаў, праўнукаў, суседзяў, знаёмых, сяброў... Ім гэта не далі, зрабілі з іх ворагаў народа. І нам нельга адварочвацца ад роднай мовы, трэба любіць яе так, як гэта рабілі героі фільма."**



Валерый Мазынскі, рэжысёр фільма «Глыбоцкая змова» на прэзентацыі ў Германавічах.

На гэта Валер Мазынскі заўважыў, што, нягледзячы на цяжкасці, сучаснікам зараз нашмат лягчэй. Зараз людзей не расстрэльваюць, за родную мову зараз не саджаюць, калі і ёсць у нас палітвязні, то пра іх ведае ўвесь свет. Героям фільма было нашмат цяжэй: ад некаторых тады нават адварочваліся родныя, пра іх лёсы тады ніхто не ведаў і тэрміны тады яны атрымалі вельмі вялікія. Толькі смерць Сталіна дазволіла нашым героям вярнуцца на Радзіму.

І хаця тады гэтыя маладыя людзі марылі пра незалежнасць Беларусі, іх марам удалося збыцца толькі праз паўстагоддзя. Але, шчыра сказаць, у цяперашняй незалежнай Беларусі іх не лічаць героямі, не ўдзяляе ім дзяржава належнай увагі. Хаця на дадзены момант з 44 чалавек, якія ўваходзілі ў СБП, у жывых засталося толькі сем.

Пасля перад удзельнікамі імпрэзы выступіў Зміцер Вайцюшкевіч. Ён праспяваў як сур'ёзныя песні, так і некалькі жартаўлівых, чым падняў настрой удзельнікам імпрэзы.

Пасля свайго выступу Зміцер падпісаў жадаючым свае паштоўкі.

Ада Райчонак зрабіла ў сваім прыватным музеі Дошку памяці, на якой змешчаны ўсе 44 прозвішчы ўдзельнікаў Саюза беларускіх патрыётаў. Памяць пра іх дзейнасць назаўсёды павінна жыць у нашых сэрцах.



На прэзентацыю фільма «Глыбоцкая змова» завітаў і вядомы беларускі бард Зміцер Вайцюшкевіч, які вельмі падняў настрой прысутным.



# Думаць пра сваю краіну і народ

**Краязнаўцу, выдаўцу, грамадскаму актывісту з Паставаў Міхалу Гілю нядаўна споўнілася 55. Мы гутарым са спадаром Міхалам пра яго выдавецкую дзейнасць.**

■ **Зміцер Лупач**

**Спадар Міхал, у цябе тэхнічная адукацыя. Як так сталася, што ты стаў займацца выдавецкай дзейнасцю?**

Зараз так атрымоўваецца ў Беларусі, ды і наогул на былых абшарах Савецкага Саюза, што амаль ніхто не працуе па спецыяльнасці. Напэўна, не на таго я вучыўся. А перавучвацца ўжо позна, прыходзіцца працаваць на аматарскіх пачатках.

А распачалося ўсё падчас перабудовы, тады дзе-нідзе сталі выдавацца незалежныя газеты, рашыў і я паспрабаваць, а чаму і не? У нас быў вялікі плюс, што ў Паставах жыў Алесь Касцень, вечная яму памяць, ён мяне і ўцягнуў у гэту справу.

Быў выдадзены літаратурным аб'яднаннем "Світанак" зборнік мясцовых аўтараў "Рунь". З гэтага ўсё і пачалося, я таксама рашыў заняцца выдавецкай справай. Зараз ужо выдадзена больш за восемдзесят кніг.

**Што сапраўды больш за восемдзесят?**

Ну, так. Трэба ж было неяк сябе рэалізаваць. Надрукаваць кнігі ў Мінску - гэта і дорага, і вялікая чарга, ды і не заўсёды сталіца цікавіцца мясцовымі аўтарамі.

**Ты шмат перакладаеш з польскай мовы. Адкуль у цябе, праваслаўнага, цікавасць да польскай мовы і гісторыі Другой Рэчы Паспалітай?**

Я то праваслаўны, але ж гэта не нацыянальнасць. У мяне ў радні былі і католікі, а раней і ўніяты. У мяне жонка каталічка, дачка, як і я, праваслаўная, таму талерантнасць у мяне ў крыві. Я краязнаўствам, гісторыяй цікавіўся змалку. Кніг, асабліва па лакальнай гісторыі Беларусі, было мала. Па мясцовай гісторыі іх наогул не было. Калі і ўзгадваліся дзе нашы мясціны, дык толькі ва ўспамінах камандзіраў савецкіх партызанаў. А пра больш даўнія часы нідзе не ўзгадвалася.

У Польшчы ж гэта галіна развіта даволі добра. Яны гэтым пастаянна займаліся, і зараз, калі паглядзець у Інтэрнэце, там шмат што выдаецца. Асабліва гістарычная літаратура, менавіта па лакальнай гісторыі. Вось я і рашыў ліквідаваць гэты прабел.



Краязнаўца Міхал Гіль (злева) і палітык Аляксандр Мілінкевіч.

Польскай літаратуры па гісторыі вельмі шмат. Асабліва XIX стагоддзе, першая палова дваццатага, асабліва З 1919 па 1939 год. Маладыя навукоўцы з Гродна некалькі кніг выдалі, але, у асноўным, пра свой рэгіён. Зараз шмат кніг па нашай гісторыі з'явілася ў Інтэрнэце, але яны на польскай мове. Вось іх і трэба перакладаць.

Яшчэ адна праблема, зараз нас лічаць Віцебшчынай, але ж мы гістарычна Віленшчына. Таму і праблематычна шукаць гістарычныя дакументы адносна нашага рэгіёна.

А чаму, на твой погляд, у нас мала ўвагі ўдзяляецца нашай даваеннай гісторыі?

Тут такая праблема, як і русіфікацыя. Маё пакаленне, ды і крыху маладзейшае, шмат у чым засталося савецкім. Не адчуваем мы сябе яшчэ жыхарамі незалежнай краіны. Мы прывыклі, што за нас хтосьці павінен думаць, вырашаць. З аднаго боку, так прасцей, а з другога, незалежнасць – гэта адказнасць, калі трэба самаму прымаць рашэнне, думаць, пра сваю краіну, народ. А мы да гэтага яшчэ не прывыклі.

**А ўсё ж, што цябе прымусіла вывучыць польскую мову?**

Вялікі ўплыў на мяне зрабіў дзядзька, які і зараз жыве ў Польшчы. Яму ўжо 93-і год. Ён ваяваў у Арміі Краёвай, у яго вельмі складаны лёс. У свой час яму пашанцавала выжыць, у 1943 годзе ён пайшоў на вечарыны ў суседнюю вёску. А тут тады стаялі эстонскія легіянеры. Яго сястру згвалцілі, загналі ў хату і разам з бацькамі спалілі. Ён прыйшоў раніцай з вечарын на галавешкі. Гэта вельмі страшна было. Яго таксама тады шукалі гэтыя эстонцы, ён хаваўся, потым яму трапіліся партызаны Арміі Краёвай, ён і далучыўся да іх, ваяваў аж да канца вайны, потым перабраўся ў Польшчу.

Я часта быў у яго ў гасцях, ён добра валодае польскай мовай, але і беларускую не забыўся. Пад яго ўплывам я і вырашыў вывучыць польскую мову.

**А якія планы на бліжэйшую будучыню?**

Яшчэ шмат трэба перакладаць і перакладаць. Нарбут увесь не перакладзены. У бліжэйшы час павінна выйсці кніжка пра паўстанне 1863 года ў Свянцянскім павеце. Яшчэ я распачаў серыю кніг пра знакамітых людзей, што паходзяць з Пастаўшчыны, або частка жыцця якіх з ёй звязаная. Адна кніга ўжо амаль гатовая, на другую таксама амаль сабраныя матэрыялы. Яна будзе прысвечана тым землякам, што пасля вайны пераехалі ў Польшчу і там дасягнулі вялікіх вынікаў. Сярод іх ёсць і рэктары, і акторы, і літаратары.

**Поспехаў табе ў гэтай добрай справе.**

Дзякуй.

# Доўг – роднай Дзісеншчыне



**Кліменцій Кожан**, краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні. *м. Германавічы.*

**Працяг.**
***Пачатак у №44 (708).***

Скончыўшы працу над партрэтам Машары, мастак распачынае разьбаваць партрэт Янкі Пачопкі: добра пад рукой быў гатовы і, здаецца, удалы партрэт сябра, зроблены вугалём. Гэты аграном з душой пісьменніка быў удзячнай мадэллю для мастака, скульптара. Рысы твару выразныя, буйныя, ярка акрэсленыя. Робячы першы накід, мастак не думаў, што на папеы выявіцца такая класічная дасканаласць форм.

Няблага выглядаў і партрэт Пачопкі, выкананы ў дрэве. Ладная галава з шырокім адкрытым ілбом, выразна акрэслены падбародак. Пенснэ, невялікія вусы. Хоць і цяжкаватай напачатку здалася мастаку плоская разьба, усё ж нямое дрэва паддалося яго разцу, набыло жывыя, адухоўленыя формы.

Апошні раз будучы ў Янкі Пачопкі ў Летніках, мастак памог яму намаляваць некалькі дэкаратыўных сценных дываноў. Пісалі іх казеінавымі фарбамі на чорным кужалі і зрэб'і. Такімі заробкамі Янка вырашыў неяк даць рады сабе ў беспрацоўі. Мода на сценныя дываны тут пачынала пашырацца.

Зрабіўшы свой першы дэкаратыўны дыван, мастак і падумць не мог, што гэтая праца на гады стане ці не асноўным спосабам зарабіць на кавалак хлеба. Далейшай выплаты за графіку з музея з Вільні не было. Улады стасавалі да беларускага музея розныя рэпрэсіўныя меры. Хоць гэта быў не актыўны асяродак нацыянальнай культуры, усё ж ён раздражняў іх.

Люты прайшоў у нездароўі. Па чарзе з братам хварэлі на грып. А потым яшчэ схапіў запаленне вуха. Так што было не да малявання… Адно што аздобіў - пару крушынавых кіёў, выразьбаваўшы на іх паненак, апранутых па старой модзе. Ды зрабіў з грушавага дрэва футаральчык для дзённіка, дэкараваўшы яго разьбой у "месяцовым стылі". І яшчэ пару драбнічак: сценку для календара, пару табакерак і пісьмовы прыбор з чорнага дубу.

Не агледзеўся, як прайшла, прамінула вясна. А калі надышло лета, гэта праца, да якой ставіўся не вельмі сур'ёзна, - дываны – забрала ўвесь час. Знайшоў у ёй не толькі спосаб пражыць, але і больш сэнс. "Ад месяца ліпеня аж да канца верасня аддаўся дзеля развіцця ў народзе мастацкага, эстэтычнага пачуцця і размалёўваю для тых, хто запросіць, на простым вясковым саматканым палатне рознаўзорыстыя дываны з месячнымі пейзажамі на асяродках". Працаваў найбольш у лужкоўскіх ваколіцах, каля Улінскай пушчы. Траплялася ў адной хаце малявацьнекалькі дываноў. Кожная з дачок хацела мець свой – і яшчэ лепшы, прыгажэйшы, чым у сясцёр. Звычайна, дзе



**Глыбоцкі рынак часоў Я. Драздовіча. На заднім плане – цяперашні будынак Белзнешэканомбанка.** *Фота Леанарда Рачыцкага, 1930-я гг.*

працаваў, там і сталаваўся. Рад быў прысесці за супольны стол: хоць у чужой, але ў сям'і, - і весялей і смачней. У нядзелі, дні пераходу з вёскі да вёскі, аглядаў ваколіцы, распытваў у старэйшых людзей пра даўнейшыя часы, пра старыя курганы-валатоўкі, сляды старажытных селішчаў. У вёсцы Забалоцце селянін Протас падараваў мастаку "перунову стралу" – крамнёвую сякерку. Ля возера Язна, на адным з хутароў раздабыў яшчэ адну, даволі вялікую.

Прайшоўся сцежкамі дзяцінства. Пабываў у Кмітах, над рэчкаю Аутай, дзе жыў пры маці і старэйшых братах з васьмі да дванаццаці год. Залатая гара, Чырвонае поле, Мая даліна – гэтыя назвы адзываліся ў сэрцы шчымлівай музыкай. Назбіраў арэхаў і вярнуўся ў Падауты. Тут затрымаўся на пару дзён.

Зацікавіла мастака Замкавая гара, што была непадалёк ад хутара. Прайшоўшыся па схіле гары, знайшоў прыкметы старадаўняга селішча – чарапкі гаршкоў.

У кастрычніку работы памянела. Хоць плату за дываны мастак браў малую (яна фактычна ішла на фарбы ды махорку, якая, дарэчы, у тыя часы ў Польшчы была вельмі дарагая), але не кожны меў і тыя пару злотых, каб ахвяраваць іх на аздабленне сваёй хаты. Заробкаў жа ў дзяўчат – галоўных заказчыкаў – лічы, не было ніякіх. Хіба якінебудзь фунт масла ды пару дзясяткаў яек маці прадасць на рынку або сама ў жніво пойдзе жаць на панскае поле.

Неяк Драздовіч пабываў у Глыбокім на таргу. Працаваў у Свіле ў знаёмага каваля, напісаў партрэты яго бацькоў, і карыстаючыся з таго, што гаспадар выбіраўся канём у мястэчка, паехаў разам з ім. Такога вялікага заезду ў Глыбокім мастак яшчэ не бачыў. Вазамі было запруджана ўсё – пляц, вуліцы і новы рынак на ўскраіне. І ўсе хацелі нешта прадаць, збыць, хоць па марнай цане.

З прычыны прымусовай перадышкі (новых заказаў на дываны не было) мастак дазволіў сабе павандраваць па гарадзішчах, сабраць новыя звесткі ды запісаць усё, што даведаўся, аглядаючы іх раней. Апісаў гарадзішча каля возера Пліса. Апісанне зрабіў скрупулёзнае, з дакладнасцю даследчыка-археолага: з падрабязнай характарыстыкай месцазнаходжання, форм, грунту, падачай памераў. Гэтаксама апісаў гарадзішча "Гарадзец", што каля Лужкоў. Распытаў пра гарадзішчанскія ўзвышшы ля вёскі Пілад (Пілаты), ля Новага Пагоста, пра гарадзішчы ў ваколіцах Залесся. Сабраў шмат звестак па археалогіі старажытнай Дзісны.

Пра гарадзішча Гарадзея, што ля Залесся, захавалася прыгожая легенда. Нібыта тут, на гэтай гары, калісь даўно стаяў вялікі драўляны замак. І жыла ў ім красуня княжна. Аднойчы замак яе аблажылі і падпалілі ворагі. Калі сцены заняліся агнём, княжна-прыгажуня на шасцёрцы коней праз рады ворагаў шыбанула з гары ў возера. Кажуць, з таго часу раз у год з возера даносяцца званкі: нескароная княжна раз'язджае па дне яго.

Пры апісанні гарадзішча "Гародня", што каля Залесся, мастак звяртае ўвагу на асаблівасць мясцовасці: "На ўсход ад гарадзішча цягнецца на некалькі вёрст прыгожага выгляду, парослая лесам і кустамі ляшчыны надазёрная горная града з характэрнымі акруглястымі на ёй крынічнабалацянымі лагчынамі, якія прыпамінаюць сваім выглядам некаторыя цыркакратары на Месяцы".

Аднак археалогія археалогіяй, але трэба падумаць і аб надыходзячай зіме: куды падацца, каб у цяпле мець магчымасць папрацаваць крыху і над сваімі задумамі. За лета ні разу не ўзяўся ні за пяро, ні за пэндзаль. Хацеў пайсці на Жацкія Імхі, але раздумаўся: успомніў, што запрашалі ў Спігальшчыну маляваць партрэты. Спыніўся тут на адным з падлесных хутароў. Маляваў з натуры па аднаму партрэту ў дзень. Меў заказы і на дываны. Яшчэ не адгаманіла пара вяселляў, і мастак пабываў на двух, запрошаны дзяўчатамі-выданніцамі, для якіх стараўся маляваць найпрыгажэйшыя дываны. Два тыдні лістапада правёў у Тупічыне, дзе дэкараваў сялянскія хаты каляровымі дыванамі. Скончыў працу ў Тупічыне, нацешыў сваё і чужыя вочы яркімі фарбамі, пакінуў малярскія прылады ў засценку Сіпаліна, а сам падаўся нацянькі ў Юркава да брата і пляменнікаў, каб разам адсвяткаваць Каляды. Дарога бясснежная. Галалёдзіца. Слізка.

Родных застаў, як заўсёды, у гаспадарчых клопатах. Пляменнікі днём працавалі ў лесе – дровы секлі, а вечарам валілі лямец па заказу. Адсвяткавалі – і зноў падаўся ў Сіпаліна, дзе чакаў ужо, здаецца, апошні ў гэтым годзе заказ на дыван для панны Мальвіны. Папрасіла намаляваць месячную ноч. Аблямаваў букетамі кветак вялікае палатно і скончыў працу ўвечары. Ужо запаліліся зоркі, і Новы год стаяў ля парога. Не рашыўся, аднак гледзячы, выбірацца да родных.



**Глыбоцкі рынак часоў Я. Драздовіча. На месцы Рынкавага пляца сёння Дом Саветаў.** *Фота Леанарда Рачыцкага, 1930-я гг.*

Раніцай адправіўся да цёткі ў Кучыншчыну, а надвячоркам сходзіў да сваякоў у Зароўе: свята на тое і свята, каб яго святкаваць, адведваць родных – так заведзена ў народзе спрадвеку. Часам Драздовіча даймалі невясёлыя думкі. Хацелася кінуць гэта валацужнае жыццё, вярнуцца да сваіх сталых задум. Як мастака, чалавека яго ўяўленне ўладна забіраў Сусвет. Ведаў, што шмат хто глядзіць на яго як на дзівака. Машара нават спрабаваў высмеяць гэта лунанне ў безбярэжжы Сусвету. Бачыў у гэтым страту рэальнага грунту, марнатраўства таленту. Але тыя, хто быў найбліжэй, як Янка Пачопка, глядзелі на захапленне Драздовіча космасам спагадна, з надзеяй. Няхай няэвычайнае і далёкае, але штосьці цікавае, значнае адкрываў мастак сабе і людзям на палотнах, прысвечаных космасу. Чуючы Янкаву падтрымку, Драздовіч смялей распінаў на рамцы ў яго хаце чарговае палатно, грунтаваў яго пад новыя прамільгнуўшыя ў яго фантазіі касмічныя вобразы, матывы.

І вось цяпер, каб не мясіць глыбокі снег, папрасіў пляменніка Стася адвезці яго ў Летнікі. Бачылася яму ўжо занебная краіна "Аргентонія". Аргентонія, паводле ўяўлення Драздовіча, - стратэгічна ўмацаваны горад, гняздо месячан непадалёку срабрыстага цырку "Капернік". На фоне цёмных маналітаў – асветленая крапасная сцяна, цэлы горад-крэпасць. На пярэднім плане хвалісты, нібы застылая лава, грунт. На ім цёмназялёныя з жоўтым зграбныя невялікія раслінкі, якія скупа ажыўляюць скалісты пейзаж. І вобраз гэтага каменнага гнязда-ўмацавання, і охрысты каларыт карціны сапраўды пераносяць наша ўяўленне ў пустынна-загадкавыя нетры далёкай краіны.

Аднаго дня заглянуў да Янкі Антон Роўда з Верацей, стаў зманьваць мастака ў сваю вёску: "Дзяўчаты даўно пытаюцца, чаму дзядзька Язэп абмінае наш кут?" Мастак згадзіўся, паехаў. Канец студзеня і ледзь не ўвесь люты маляваў дываны і фіранкі. Для Веркі чырвоныя фіранкі з месяцовай ноччу, для Марылі – зялёныя, з выглядам вясковай вуліцы, Соні – з раніцай над возерам, Любе – з зімовай дарогай, заінелымі бярозамі Лужэцкага тракта. Нарэшце – сінія фіранкі з Гедымінавай гарой на асяродку. Працаваў, як падганяны. Нарэшце надакучыла з дня ў дзень тырчаць каля распятай на сцяне посцілкі. Дранцвеў карак, сэрца пачынала шчымець ды і страўнік ад доўгага стаяння на нагах пачынаў падводзіць. Кінуў-рынуў "перабіранкі", як тут называлі посцілкі, што служылі асновай для дываноў, ды пайшоў у Летнікі. Там пачаў новую рэч з касмічных "візіяў" – карціну "Artapolis", што ў перакладзе з латыні азначала "Горад мастацтва". У ёй увасабляў сваю мару аб будучыні, аб сацыяльным ладзе, дзе будзе прастор чалавечаму духу, творчасці.

Адпачываў нядоўга. У Янкі то збіраліся госці, то ўсе з'язджалі з дому і пакідалі яго за гаспадара. Паліў печку, пераглядаў кнігі з Янкавай бібліятэкі. Асабліва часта браў у рукі "Жыццё раслін" і доўга разглядаў малюнкі-абразкі Эрнэста Гейнэ. Выбіраўся слухаць самаробнае радыё да суседа. Днём лавілі Маскву, Ленінград, Мінск, а вечарам Прагу, Берлін. З Масквы, Ленінграда можна было наслухацца добрай музыкі, спеваў. Тое ж і з Прагі. А з Берліна ляцелі толькі бравурныя маршы, часам чуліся нейкія ўзбуджаныя, з ноткамі істэрызму прамовы.

У пачатку красавіка мастак ужо ў Верацеях, у добрага знаёмага Роўды. Зноў малюе дзяўчатам і маладзіцам дываны з разнастайнымі краявідамі. Ад няма чаго рабіць піша, паводле свайго вызначэння, "карыкатурны абраз", а фактычна вельмі цікавы твор, у якім неяк панароднаму, па-філасофску асэнсавана сацыяльная барацьба, што тачылася вякамі і цяпер была рэальнасцю Заходняй Беларусі. Палатно "Мужык з панам цягаецца" – не карыкатура. Толькі ў знешнім праяўленні яно выглядае гумарыстычна. А ў сапраўднасці мастак, можа і сам таго не падазраючы, вельмі тонка, пранікнёна, дасціпна схапіў і ўвасобіў у жывых вобразах адзін з самых вострых сацыяльных вузлоў, адно з самых набалелых пытанняў грамадскага жыцця ў Заходняй Беларусі ды і ўсёй даваеннай Польшчы ў цэлым. "Мужык з панам цягаецца" – твор глыбокай сацыяльнай праўды , вельмі надзённы для свайго часу.

На палатне пажылы беларускі селянін у белай світцы, магерцы, лапцях і яго антыпод – стары, азызлы пан у гарнітуры, белай манішцы, чорных туфлях. Упёршыся нагамі, узяўшыся за вілачнік, яны цягнуць – не могуць перацягнуць адзін другога. Цяганіна гэта, барუханне адбываецца на фоне будынка парламента, які нібы лунае воддаль угары. Палац сейма тут намаляваны невыпадкова. Мастак пісаў сваю карціну, успамінаючы тую зацятую барацьбу, сапраўдную вайну, якую некалькі год таму разгарнулі на сеймавай арэне прадстаўнікі левых сіл – Кампартыі Польшчы, Незалежнай сялянскай партыі і Беларускай сялянска-работніцкай грамады – з правымі за зямлю для сялянства. Колькі гарачых, шчырых слоў было сказана ў абарону працоўных. Тарашкевіч нават прыгразіў памешчыкам, што калі яны па-добраму не аддадуць сялянам зямлю, то іх маёнткі пойдуць з дымам пажараў. Але намаганні левых дэпутатаў аказаліся дарэмнымі. Ні пострах, ні пакліканне на маральнае права не падзейнічалі на ўладароў вялізных зямельных абшараў. Яны не збіраліся дзяліцца зямлёй з тымі, хто на яе меў найбольшае права. Цяганне з панам пакуль што ў Польшчы не прыносіла перамогі селяніну-гаротніку.

– Дык хто ж перацягне? – пыталіся ў мастака людзі, з цікавасцю ўглядаючыся ў яго палатно.

– Прыглядзьцеся добра, – адказваў дзядзька Язэп. – Вунь які рыхлы пан. Не адолець яму цягавітага, вякамі ў працы гартаванага нашага брата-земляроба.

Карціна падабалася. Шмат хто хацеў яе мець у сваёй хаце, і мастак зрабіў некалькі паасобнікаў свайго "Пана з мужыком". Адзін з іх і дачакаўся, што на яго праз нейкіх гадоў сорак натрапілі збіральнікі неаглядный, раскіданай па ўсёй Дзісеншчыне, спадчыны мастака-вандроўніка.

**Крыніца:** Арсень Ліс **"Вечны вандроўнік"**

